1920.
ЛЮТЫ.
2-гі год
выданьня.

# ЧАСОПІС

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ, ЛІТЭРАТУРНЫ І НАВУЧНА-ГІСТАРЫЧНЫ ШТОМ

* DC *

1320.



1920.

**Наш падневольны БЕЛАСТОК, - твор Гэдыміна.**

Хто не знае гэтых адвечна беларускіх местаў, залатых пацёркаў нашай Бацькаўшчыны !? Гэта яны - Беласток (над Белай рэчкай), Бельск, Белавежа-стогнуць цяпер пад татаршчынай XX-га сталецьця!... Яны чэкаюць вызваленьня ад незаслужаных мукаў!...

Беласток, стаўшы для Беларусі сваім Манчэстэрам, як прамыслова-фабрычны цэнтр, істнуе ад 1320 году: сёлета Беластоку спаўняецца 600 (DC) гадоў істнаваньня.

Слава табе, наш белы, белы вартаўнік!...

# ЬМЕСТ № 2 (6) „ЧАСОПІСІ“:



**арговы № 3 (7) выйдзе ў красавіку месяцы б. г.**

## Зьмест чарговага № 3 (7).

У чарговым № 3 (7) „Часопісі“ Рэдакцыя маніцца даць: верш „Літвін-беларусу“ І. Турчынішкіса (на літоўскай і беларускай мовах); стацьці: праф. Э. Карскага, праф. В. Смолко, Сымона Рака, М. Засецкага, К. Белага; апаведаньне Максіма Гарэцкага, ілюстрацыі: Людвіка Кандратовіча (Сыракомлі), Францішка Скарыны, беларускага дзеяча А. Смоліча, Старшыні-Міністра Літвы Э. Гальваноўскага, Народнага Сэкрэтарыяту Беларусі, Сымона Розэнбаўма, гуртка літоўскіх дзеячоў і многа іншых.

КОЎНА. ЛЮТЫ, 1920 году. 2-гі ГОД ВЫДАНЬНЯ. № 2 (6).



# ЧАСОПІСЬ

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ, ЛІТЭРАТУРНЫ І НАВУЧНА-ГІСТАРЫЧНЫ ШТОМЕСЯЧНІК З ІЛЮСТРАЦЫЯМІ.

## СТАРАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПІСЬМЕННАСЬЦЬ.

Рэдакцыя „Часопісі“ атрымала частку архіваў першага беларускага штомесячніка „Варта“, які выдаваўся ў 1918 гаду ў Менску-Беларускім і быў спынены з прыходам у сталіцу Беларусі-маскалёў. З гэтага архіву ніжэй мы друкуем дзве рэчы старой беларускай пісьменнасьці: 1) верш Францішка Богушэвіча „Ясьне Вяльможнай Пані Арэшчысе“, напісаны ім у 1891 гаду ў чэсьць 25-цілецьця пісьменніцкай працы Элізы Арэшчыхі; твор гэты у свой час павінен быў быць надрукованы ў альбомі у чэсьць пісацелькі але з цэнзурных прычын у друк не трапіў; 2) апаведаньне Адама Плуга (Антона Петкевіча)—„Кручаная Баба“, знойдзенае ся срод іншых твораў пісьменніка-беларуса (са Случчыны) вельмі-вядомага творамі на польскай мове (*1823—†1903). Абодзве гэтыя рэчы да апошняй пары былі надруковааны толькі ў памянёным штомесячніку „Варта“. (№ 1. Кастрычнік, 1918 году).

## Невыданы верш Мацея Бурачка.

### Ясьне Вяльможнай Пані Арэшчысе.

Гдзе ж нам парывацца—
З мудрымі раўняцца:
Чэсьць аддаць аўторцы
У простай гаворцы.

Не, ня чэсьць, то мала—
Славу сваім трудам
Сама ты зьеднала...
Ты-з пальмай прад людам.

Шмат ксёнжак пісалі,
Не аб нашым браце:
Лепш чужых пазналі:
Як у сваёй хаце;

А нас подлых кмеці,
Міналі з далёка
І хавалі дзеці
Ад нашага вока.

А ты, пані, сьмела
Заглянула ў хату,
Усё зразумела
І нашаму брату

Працягнула руку
І сэрцам балела,
Глядзеўшы на муку,
І пяром умела

Выліць смутак гэты,—
Што аж душа рвецца,
Што плачуць кабеты,
Не знаюць гдзе дзецца.

Чым жэ мы аддзячым.
Што ж мы напрыносім—
Хіба што заплачым,
Ды Бога папросім:

Прымі-ж нашу дзяку
У малітве, ў сьлёзцы,
Прымі, як азнаку
Тваёй славы ў вёсцы!

**Мацей Бурачок.**



**ФРАНЦІШАК БОГУШЭВІЧ**
(Мацей Бурачок, Сымон Рэўка).

Беларускі клясычны пісьменнік. Радзіўся ў 1840 г., вучыўся у Вільні і Пецярбурзі і памёр у Ашмяншчыні ў 1900 гаду. Творы яго выданы былі першы раз у 1891 гаду ў Кракаві-„Дудка Беларуская“, і ў 1894 гаду ў Пазнані—„Смык Беларускі“. З таго часу выдаваліся колькі разоў і вядомы далёка за межамі бацькаўшчыны беларускага дудара.

# КРУЧАНАЯ БАБА.

Апаведаньне Адама Плуга (Антона Петкевіча).

Жыў на сьвеце адзін гаспадар, ды такі бедны: ажно страх, ніхай Бог крыя; але працавіты, справядлівы, цьвярозы і, каліб ня жонка, дык быўбы навэт шчасьлівы. На нішчасьце ў жонцы яго цэлае ліхо сядзела, як гэта, ня тут кажучы, часьценька і бывае ў людзей...

Во гэтае-ж цэлае ліхо і сядзела ў жонцы; але і была ж яна шельмай с пад цёмнай зоркі. Не кажу ўжо таго, што грызла яго бытцам соль у воку, што сакатала яму ў дзень і ў ноч над галавою, на гэта ж бабы і родзюцца, але глаўнае: ніякага сэкрэта, крый Божэ, утрымаць ні магла. Што толькі муж зрабіў, што толькі пастанавіў зрабіць, навэт што памысьліў, яна ужо усё ведала ды зараз жэ бегла ад хаты ў хату ды ўсім аб гэтым сакатала, дабаўляючы у чатыры разы больш, чым па праўдзі было. Гэтак і сама мужыку прынасіла навіны ды малола уселякія брэдні: пры сакатлівасьці сваёй была яна і надзвычайна лёгкавернай.

Здарылася неяк адзін раз, што гаспадар наш, аручы поле, пусьціў валоў пасьвіцца на мяжы, а сам пад кусьцікам прылёг крыху адпачыць. Глядзіць ажно надходзіць нейкі дзядок з вялікім гаршчком пад палою сермягі ды з рыдлёўкай ў руцэ. Гаспадар ляжыць бы мёртвы, толькі вочы бытцам рак вытарашчыў, ды вушы наставіў, як заяц. Вось дзядок выкапаў ямку, паставіў у ёй гаршчок, ды пачаў закапываць, кладзючы лапатай хрэсты і балмочучы: „Той хай зможэ узяць ўсе грошы, хто тут ўзложыць сем галоў“. Закапаў, пашэптаў, ды і пайшоў.

Гаспадар з гэтакага дзіва прызадумаўся моцна, а за тым стаў чухаць галаву. „Гэй, і-думае сябе—скуль бы мне ўзяць гэтыя сем галоў. Вось каліб гэтак жонка мая мела іх і семдзесят сем дык не пажалеў бы іх, а ў яе толькі адна галава ды і тая дурная. Як бы тугака парадзіць?!“

Доўга гэтак думаў, лежаўшы да гары пузам ды лічучы хмаркі на небі, а над нім летала цьма аваднёў. Як толькі які з аваднёў сядзе яму на нос, ён зараз яго ухопіць, адарве галоўку і прыгледаецца яму. А то і усадзіўшы авадню саломку ў хвосьцік, пусціць его ды смяецца вясёла, гледзючы, як авадзень ляціць, бы ашалелы, высока, высока, пакуль ня прападзе пад небам. Шмат галоў ужо адарваў, многа саломак ужо ўсадзіў авадням, думаючы усё аб сямі галавах; ажно неяк добрая думка увайшла яму ў галаву. Скочыў на ногі, дый давай лавіць аваднёў; злавіушы іх сем, пайшоў туды, дз' дзядок закапаў свае грошы, выкапаў іх з зямлі і кідаючы ў яму адна за другой галавы, якія адрываў аваднём, прыгаварываў: „Вось адна галава, вось і другая галава“. І гэтак ажно да сямі. Кінуўшы усе, забраў гаршчок, дзе былі адны дукаты-чырвонцы, схаваў пад палу сьвіткі і шчасьліва уцёк да хаты. Здурэўшы з радасьці, сказаў жонцы аб сваім шчасьці; а як прыпомніу сабе, што зрабіў глупства, кажучы аб гэтым жонцы, падумаў сабе: „Ах ліха ж яе мацеры! Селі пяцігорцы макам, кабыла порах зьела! Што я нарабіў! Як цяпер на гэта парадзіць?“

Думаў ды выдумаў. Пайшоў у мястэчка, накупіў пірагоў больш за чатыры капы дый прынёс у хату. Капу расыпаў на дварэ, капу кінуў на страху, панатыкаў крыху ў плецень, дый рэшту узяў у хату, шыбкі ў ванках пабіў, а пірагі параскідаў па услонах ды па палу. Жонкі не было ў хаце, апаведала яна ужо ў другім канцы сяла, як гэта муж яе чатыры катлы грашэй знайшоў, чаму вядома ніхто веры і не даваў. Аблітая потам прыбегаець яна ў хату; глядзіць, цэлы двор усланы пірагамі, пірагі на страсе, пірагі у плетню, а хата з пабітымі шыбкамі у вакнах.

„Што гэта?“ пытаецца з дзівам.

„Ці ты не бачыла,—адказывае ёй муж, „як ішла хмара з пірагамі замест града? Зьбірай хуценька каб суседзі не бачылі“. Пазьбіралі усе дый схавалі ў клеці. Жонка зараз жэ пабегла з хаты у хату дый давай апаведаць людзям, як над іх падворкам лопнула хмара з пірагамі, каторых і назьбіралі поўную клець. Варочаецца баба дамоў, ажно на па-

розе сустрэч ець мужа з гацьцю на рыбы, ды вось дзіва, у гаці чатыры шчукі, ды два маладые зайцы.

„Што гэта?“—ізноў пытаецца.

„А што, — адказывае муж —,,паставіў я гаць на рыбы, а Бог даў рыбы ды зайцаў“.

„Ов-ва!“—крыкнула жонка—,,вось дзіва, так дзіва!“

Зараз і пабегла хваліцца ў сяле, што муж злавіў гацьцю ў рэчцы дзесяць шчук ды цяць зайцаў. Вярнуўшыся позна ў вечэр, бачыць, што мужа німа у хаце; ўрешця прыбегае ён мокры ад пота, бытцам рудая мыш, а ў руцэ трымае здор сала.

„Што гэта?“—пытае жонка.

„Маўчы дурная!“ —кажэ ёй муж на вуха: „Пан ўзлез у клець, дый краў сала, а я дагнаўшы адабраў, ды шельму выхвастаў, як сабаку. Ды глазді ж мне, не расказывай нікому, бо была бы бяда!“

Прайшоў адзін тыдзень, другі, гаспадар пабіў сваю жонку за нейкае там ліха. Злуючы на яго, жонка і кажэ: „Пачэкай жэ, гадзюка, пайду я да пана, ўсё чыста скажу, як ты знайшоў грошы“.

„Ідзі к чортавай мацеры!“

Яна такі і пабегла. Пан прысылае за мужыком. Калі яго спыталіся аб знойдзеных грошах, здрыгнуў ён плечыма пачаў хресьціцца, дый клясьціся адказываючы: „Далібог, а ні чуў, а ні бачыў!“

„Хлусіць паночку! брэшэць!“-крычала заўўзятая баба — знайшоў, далібог, знайшоў, у той самы дзень, як хмара ішла з пірагамі“.

„Ашалела баба!“ кажэ здзіўлены пан.

„Скруцілася, паночку!“— адказаў мужык ўздыхаючы.

„Сам ён скруціўся!“-дзіка крыкнула баба,- „знайшоў, далібог, знайшоў, у той самы дзень, як два зайцы ды чатыры шчукі ў гаць ўлезлі.“

„Што табе, баба? Упілася, ці ашалела?“- пытаўся пан, ад сьмеха трымаючыся за пузо, каб не лопнуць.

„Кручная, паночку!“— сказаў муж ламаючы рукі—„вось і доля мая, доля нешчасная!“

„Сам ты кручаны“ — крычала, бытцам амалеўшы, баба, грозючы свайму мужу куламі„—знайшоў, паночку, каб я шчарнела, як зямля, калі няпраўда! Знайшоў у той самы дзень, выбачай паночак, як пан сала краў!“

„Несчасня мая доля, горкае мае жыцьцё!“—



**ГРЫГОР АЛЯКСАНДРАВІЧ ХОДКЕВІЧ.**

Гэтман Літоўска-Беларускі.

Знаменіты беларускі патрыот і культурны дзеяч XVI сталецьця. У яго ўладарстві-Заблудаві, што пад Беластокам, ім жэ была заложэна беларуская друкарня, дзе слаўны наш сваяк Петро Мсціславец коштам гэтмана друкаваў беларускія цэркоўныя кнігі: Эвангеліе Учыцельнае ў 1568-69 г. г. Псалтыр з Часаслоўцам у 1570 г. і др.

Гэтман Грыгоры вядомы і як выдатны ваяка: ў 1578 г. ён, камандуючы літоўска-беларускім войскам, заваеваў Дынабург (Дзвінск).

Сучасную беларускую часьць Літоўскай Арміі праектуецца назваць імем гэтага вялікага беларуса.

(Партрэт гэты зрысованы з арыгіналу, які знайходзіўся да 1914 г. ў Несьвіжскім Музэю).

—крыкнуў мужык са страхам; а пан смеючыся, як ніколі ў жыцьцю, прыказаў бабу завясьці да студні дый выліць ёй колькі ведзяр вады на галаву, каб ёй глузды прыўраціць.

**Адам Плуг (Антон Петкевіч).**

Сноў, 1849 г.

# ГУТАРКА аб БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ.

Стацьця Сымона Рака.

Кожнаму даводзілася спатыкаць з паміж, так званых, інтэлігэнтаў і з паміж простых людзей такіх, што мала ня з ненавісьцю глядзяць на беларускую кніжку, а ўжо пра змаганьне шчырых беларусоў за сваю школу, то і казаць німа чаго.

Адны з гэтых інтэлігэнтаў, што стаяць за стары дзяржаўны лад, хацелі-б сілай прымусіць ўсе народы былой Расеі пакінуць сваю мову і паравучыцца на маскоўскую. Гэтыя „истинно-русские люди“ пастаянна крычалі, што павінна быць адна вера і адзін народ. Гэтакія людзі калісь катавалі, палілі людзей на вагні, за веру вырэзалі цэлыя краі, але не дабіліся аднэй веры. Розныя народы засталіся, жывуць і жыць будуць. Так сама ніхто нідзе не дабіўся, каб ўсе гаварылі аднэй мовай.

Ня дзіва, што быўшыя расейскія чыноўнікі стаяць за абрусеньне, бо для іх ідзе пра тое, каб яны са сваёй маскоўскай мовай маглі служыць і ў Польшчы, і на Літве, і на Украіне, і у нас,—ў Беларусі, каб ўсе іх разумелі, каб ім ня трэба было вучыцца мовы таго народу, сярод якога яны жывуць. Навэт большэй частцы расейскіх пісьменьнікаў, ці выдаўцом расейскіх кніжак ды газэт выгадней, каб ўсе гаварылі расейскай мовай, каб іх кніжкі і газэты купляліся ды расходзіліся ня толькі паміж маскаўцамі, а і паміж іншымі народамі.

Але ёсьць шмат паступоўцаў і сацыялістаў, якія так сама дбаюць пра тоя, каб хутчэй зьвяліся ўсе мовы, каб быў адзін народ, адна нацыя, бо быццам ня будзе тагды тых варожых адносін, якія ёсьць цяпер паміж розным народамі. Ня кажуць яны толькі пра тое, каб зігінула расейская мова. Свайго шкада!..

З паміж простых людзей ёсьць шмат такіх, што падвучыліся трохі маскоўскай мове ў салдатох, або на службе ў месьце, і лічаць сябе чымсьці вышэйшым за „необразованнаго мужика“, з пагардай глядзяць на сваю родную мову, навэт сьмяюцца з яе, уважаючы яе за „мужычую“. Пра тых людцоў, каторыя саўсім адбіліся ад народу, я ня буду гаварыць: я хачу расказаць сваю размову з селянінам, які, жывучы ў вёсцы сярод беларускага народу, стаіць за расейскую мову і даводзе, што нам трэба хутчэй пакінуць сваю мову і паравучыцца на расейскую.

У нашай вёсцы ёсьць адзін дзядзька сярэдняга веку, сярэдняга дастатку. Калісь служыў ён у салдатох, чалавек разумны, ўдумчывы і навэт, я казаў, бы, начытаны, бо, пачынаючы з 1905 году, ён перачытаў шмат расейскіх кніжак, пераважна рэвалюцыйнага або звальняючага зьместу, якія даставаў ад рабочых у месьці. Але дзіўна, што ад чытаньня беларускіх кніжак і газэт ён няначай ухіляўся, а каб разумець расейскія кніжкі,—прыдбаў сабе слоўнік чужамоўных слоў. Ён часам заходзіць да мяне па ўласных справах, або так, пасядзець. Аднаго разу ён мне кажа:



**ІВАН ІГН. КРАСКОЎСКІ.**

Стары партыйны беларускі працаўнік, адзін з фундатараў Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Радзіўся у 1877 г. ў Городзеншчыне (у Бельскім павеце); вядомы, як віленскі пэдагог.
У 1917 гаду прыймаў энэргічнае учасьце ў арганізацыі беларусаў-вайсковых, цяпер-дыплёматычны прэдстаўнік у Грузінскай Рэспубліцэ.

— Вось вы складаеце свае кніжкі, пішаце ў газэту павашаму, пабеларускаму. Добрыя яны, а былі-б яшчэ лепшымі, каб былі напісаны парасейску.

— Што-ж, яны незразумелы? — пытаюся.

— Не, ня тое! Ведаеца, я так мысьлю, што нам трэба пакінуць сваю мову, трэба хутчэй паравучыцца на расейскую, ці на польскую.—

— На што-ж гэта?—

— Бо мова наша—мужыцкая. На службе намучыўся я цераз яе, пакуль паравучыўся на расейскую. Цяпер так сама ня мала клопатаў набярэсся, як давядзецца, часамі, мець дзела ў судзе, ці з'якім начальствам. На што ужо-почта, а і там абыходзяцца з табою, як з сабакам. Вось ёсьць тут ў нас Лаўрышын, — можа знаеце? Басячок такі, служыў у месьце, пракраўся, цяпер жывець дома. Прыдзець

ён на почту, ці на вакзал, загавора па расейску, дык начальнік яму скажэ, ці „подождите“, ці што там іншае, але усё палюдзку, на „вы“. Ну, а прыду я — гаспадар, скажу слова панашаму, дык ён мне зараз „тыкае“ ды крычыць, як на скаціну. Бо мова ў мяне мужыцкая, дома за дзесяць гадоў ізноў пераvучыўся на нашу „простую“ мову. Ды на начальства яшчэ не такая злосьць барэ, як на свайго брата, мужыка, што пацёрся трохі ў месьце каля паноў, навучыўся ўсім гэтым „да-с“, „нет-с“ і ужо дзярэ нос у гару, лічачы сябе за пана. Яшчэ на службе я зацемну, што калі прыгоняць навабранцаў, дык стары салдат з жыдоў, з татараў, зараз загавора да земляка пасвайму, распытваецца, навучае яго, як трэба трымацца на службе, як гаварыць. Ну, а наш зараз пачне смяяцца з цябе, перакрыўляць, перадражняваць“.

— А гэта цераз тое, што ў жыдоў, у татараў, ці чаркесаў-і багатыя і бедныя, і паны і простыя людзі-усе говораць аднэй мовай: ў іх няма мовы панскай цім ужыцкай. А нашы людзі бачаць, што паны ды чыноўнікі ды ўсе асьвечаныя, адукаваныя людзі гавораць іншай мовай, дык і яны намагаюцца гаварыць так сама і пачынаюць сароміцца свае мовы; кожнаму хочацца быць чалавекам, а не мужыком, якога ўсе зьневажаюць. Мала ня кожны школьнік у нас, што хоць трохі пахадзіў да школы, ужо саромяецца гаварыць так, як гавораць яно бацькі, бо ў школе яго навучылі, што наша мова-мужыцкая, перакручаная расейская ці польская, што яна горшая за тую, якой вучаць у школе і якой гавораць адукаваныя людзі. Ось-жа найбольшае гора нашага народу, што асьвечаныя людзі пакінулі яго, і прысталі да іншай нацыі. За часы польскага панаваньня яны пераняглі польскую мову, і парабіліся палякамі, а потым, падъ Маскоўшчынай, нікоторыя сталі рабіцца расейцамі, а вясковы народ застаўся пры сваёй старадаўняй мове. А тым часам наша старадаўняя беларуская мова саўсім не папсаваная польская ці расейская мова, як гэта кажуць нашыя адшчапенцы. Людзі вучоныя даводзяць, што наша беларуская мова-ёсьць асобная мова і мае такое-ж самае права на жыцьцё, як і польская, ці расейская, або іншыя. Калісь, у старыя часы і нашы паны і меськія людзі гаварылі такой жа самай мовай, як і простыя людзі і адзежу насілі гэтакую самаю, як і сяляне, толькі ведама, лепшага гатунку, а цяпер засталося гэта толькі у нашых сялян“.



Гэнерал

**СІЛЬВЭСТЭР ЖУКОЎСКІ.**

Гэтман Польны Літоўскай Арміі.

Пакліканы на гэту пасаду ужэ другі раз—пасьля бунту 22-23 лютага 1920 г. ў Панемуні. Радзіўся у Шаўлях у 1865 г., скончыў Марыямпольскую гімназію і Віленскую Вайсковую Школу ў 1887 г. Гэнерала атрымаў яшчэ ў Расейскай Арміі. Ўсю Вялікую Вайну прабыў на фронці, так сама, як пад яго рукаводцтвам Літоўская Армія адсунула маскалёў з сваёй тэрыторыі.

— Ну, дык вось,—нам, як я кажу, трэба хутчэй пакінуць свае мужыцкія старадаўнія адзежу ды мову.

— Адзежу то лёгка пакінуць: купіў на рынку

## 1918—16 ЛЮТАГА—1920.

16 лютага 1920 году ўся Літва сьвяткавала 2-гія угодкі абвешчэньня Літоўскай Тарыбай незалежнасьці. Ўсе палітыкі выказалі свае адносіны да гэтага дня ў спэцыяльнай анкеці. Міністэр Беларускіх Спраў адказаў на запытаньне ўрадовай часопісі „Lietuva“ ў гэты дзень так:

„Ніхай жыве 16 лютага 1920 году, як пачатак кампаніі за Ўстаноўчы Сойм, як лёзунг нашай барацьбы за вызваленьне беларускіх зямель, як сымбол ўсенароднага спачуцьця мучэнікам польскіх астрогаў як заранка нашай поўнай незалежнасьці!“

дый годзе, а мову ня так то лёгка. Вось вы кажаце, на службе навучыліся памаскаўску, а паміж сябе дома, дык і забыліся.

— Вось-жа я і кажу, што ня трэба пісаць кніжак ды газэт панашаму. Трэба скрозь пазаводзіць такія школы, каб ўсе дзеці, хлопцы і дзяўчаты вучыліся даўжэй, каб лепей навучыліся расейскай мовы, а найбольш здатных пераводзіць на скарбовы кошт у вышэйшыя школы. Тагды скарэй ўвесь народ перавучыцца...

— Не, гэта немагчыма! Ніхай і дзесяць гадоў нашае дзіця вучыцца у расейскай школе, але калі яно дома, на вуліцы і скрозь чуе сваю мову, то яно не перавучыцца на чужую, а будзе гаварыць па свайму. Вось паглядзіце на гімназістаў, ці на вучняў духоўных, або вышэйшых пачатковых школаў па невялікіх гарадох і мястэчках, дзе ўсе гавораць па беларуску. Там вучні вучацца і з настаўнікамі і начальствам гавораць парасейску, а паміж сабою—пасвайму. Нельга перавучыць увесь народ на іншую мову; мягчыма перавучыць паасабных людзей, але ня цэлы народ, ды і то не на доўга.

— Як—то не на доуга?!

— А так, бо між тымі, што добра навучыліся гаварыць парасейску, часта знойдуцца такія, которыя не адчураюцца гаварыць і пісаць пасвайму. Цяпер у нас з кожным годам усё больш такіх людзей варочаецца да свае роднай мовы,—гавораць самі і дзяцей сваіх навучаюць гаварыць і пісаць пабеларуску; пішуць кніжкі, выдаюць газэты. Адны цераз тое, што лічаць сябе за беларусаў, у каторых павінна быць свая літэратура, навука і, наагул культура, як і ў іншых народаў; другія проста цераз тое, што любяць сваю мову, і толькі у ёй могуць выліваць сваю душу, а іншыя цераз тое, што жадаюць хутчэй пасьвяціць свой народ, дамагаюцца хаб школа была ў роднай мове. Вучоныя расейскія пэдагогі, як Ушынскі, Пірагоў, Корф, Вахцераў і



БЕЛАРУСКАЕ СЬВЯТА.

19, 20, і 21 лютага 1918 году ў Менску—Беларускім. Абвешчэньне ўлады Народнага Сэкрэтарыяту Беларусі пасьля ўцёку бальшэвікоў і да прыходу немцаў. На фатаграфіі—Дом Беларускай Рады (былы „дом Губэрнатара“) на Пляцу Волі.

іншыя пастаянна гаварылі аб тым, што ў школах на Украіне, Беларусі і Літве трэба вуцыць дзяцей у роднай матчынай мове. Калісь у нас былі свае беларускія школы; быў час, пасьля скасаваньня паншчыны, што навэт расейскія міністры (Галавін) не незабаранялі вучыць пабеларуску і дзеля гэтага былі выдрукаваны беларускія падручнікі на скарбовы кошт, але потым расейскі урад саўсім забараніў ня толькі беларускую школу, але й друкаваньне беларускіх кніжак.

— Я гэта чуў! Толькі я мысьлю, што беларускія школы будуць на шкоду народу, бо няйначэ хочуць, каб ён навекі застаўся мужыком. Дагэтуль, ўсё ж такі, некаторыя з нашых сялян, каму пашанцуе навучыцца, дый ідуць за пісара, ці кандуктара, а хто мае достаткі, той вучыцца далей і выходзіць за дохтара, настаўніка, адваката. А калі школа будзе беларуская, то куды-ж ён пойдзе з гэтакай навукаю!?

— Ўсюды Але калі школа пачатковая будзе беларуская, то трэба і такіх школ, дзе вучаць самых настаўнікаў; трэба і вышэйшых школаў, дзе вучацца тыя, што потым вучаць настаунікаў; трэба каб і ў гімназыях і ў унівэрсытэтах вучылі па беларуску. Так было у Аўстрыі, прыкладам, у Галічыне, дзе жыве міліены са тры украінцаў. Спачатку там завялі украінскую мову толькі ў народных пачатковых школах, а усе вышэйшыя школы былі польскія, або нямецкія, а пазьней там ужо пазаводзілі і украінскія гімназыі і у Львоўскім унівэрсытецэ прафэсары сталі выкладаць навуку паукраінску. А цяпер па усёй Украіне вучэньне ў школах выкладаецца ў народнай украінскай мове, якую дагэтуль шмат хто лічыў простай, мужыцкай.

— Добра! Значыцца, там у школах мужыцкая, або, як цяпер кажуць, украінская мова, а ўсе чыноўнікі ды паны гавораць па польску ці па нямецку!

— Не, там украінская мова ужываецца і ў су-

дох і на почце, на чугунцы і па ўсіх канцэлярыях. На якой мове чалавек падасьць просьбу ці загаворыць, на тэй мове чыноўнік, павінен даць яму адказ на тэй мове і судзяць яго каб ён мог ўсё зразумець, што па яго справе гаворыцца на судзе. А ў нас часта было, што людзі праігравалі сваю справу на судзе толькі цераз тое, што не зразумелі мовы, якою іх судзілі. Калі ў нас беларуская мова хутчэй завядзецца па ўсіх школах і установах, тагды усе чыноўнікі будуць гаварыць пабеларуску і тагды мова наша ня будзе ужо звацца мужыцкай.

— Дык ці захочуцьжа чыноўнікі перавучвацца на нашу мову?

— Яны павіны будуць ведаць тую мову, якой гаворыць народ, бо чыноўнікі —для народу, а не народ для чыноўнікаў. Так як было, ня можа быць далей,—яно мусіць перамяніцца. Скрозь было так, што пакуль народ бяспраўны, то чыноўнікі трымаюць яго у цемры і прымушаюць перавучвацца на казённую мову, а калі народ выбьецца на вольную сьцежку, то ў яго праяўляецца любасьць да свае старасьвеччыны і да роднай мовы. У такія часы народ разьвіваецца, прасьвячаецца ў дзесяць разоў скарэй, чым пад камандай чыноўнікаў.



**БУДЫНАК МІНІСТЭРСТВА БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ У КОЎНІ.**

(Вуліца Адама Міцкевіча, 13 а).

Так было прыкладам і ў Аустрыі ня толькі з украінцамі, а і з чэхамі і іншымі славянамі. Немцы, бадай саўсім анямечылі іх: чыноўнікі, паны ды мейськія людзі ўжо ўсе гаварылі па нямецку, і толькі цёмныя вясковыя мужыкі гаварылі сваёй роднай мовай. А як настала ў Аўстрыі праўдзівая канстытуцыя і сяляне трохі прасьвяціліся, яны пачалі дабівацца свае мовы ў школе. Грамады сялянскія пісалі прыгаворы і падавалі іх у парлямэнт, ці іначай-у свой Сойм. Выбіраючы дэпутатаў у Сойм, яны наказавалі ім, каб тыя дамагаліся свае школы. Склікалі мітынгі, ці вечы, на якіх выносілі пастановы аб патрэбе школ у роднай мове. Раз-за-разам ўспаміналі пра гэта сваім дэпутатам лістамі ад грамад, гурткоў, саюзаў. Ўрэшце ўсе народы ў Аустрыі прымусілі такі Урад завясьці, замест нямецкіх, свае школы, а чыноўнікаў-гаварыць на роднай мове; і цяпер там ўсе прасьвечаныя і простыя людзі гавораць сваёй нацыянальнай мовай, цяпер там ужо няма моваў мужыцкіх і панскіх. Так сама паўскрасалі народныя мовы ў Норвэгіі, Італіі, Фінляндыі, на Украіне, ў Літве, у Эстаў, у Латышоў; так сама шырока адраджаецца наша Беларусь, ўваскрасае наша беларуская мова.

Паслухайце, што кажа аб гэтым адзін з прасьвечаных латышоў. Гадоў колькі назад неяк заехаў да майго знаёмага вучыцеля, шчырага беларуса, адзін латыш, інжэнер, які рабіў артэзіанскія студні, і, пачуўшы ад настаўніка беларускую мову, кажа мне:—„Вось ужо я тры гады працую ў Беларусі, а толькі сярод сялян я чуў беларускую мову, і ніколі ня чуў яе ў інтэлігентнай сямы; першы раз пачуў тут. Вось так калісь то было і ў нас! Наша інтэлігенцыя і ўсе мейськія людзі саўсім ужо было анямечыліся, бо усе школы ад пачатковых да унівэрсытэту ў Дэрпце (Юрьеві), былі нямецкія; толькі па глухіх вёсках, сярод простых сялян чутна была чыстая латышская мова, ды можа ў двух-трох семьях інтэлігэнтных латышскіх патрыотаў, якія з любасьці да свайго народу выучылі яго мову і пісалі на ёй. Калі расейскі урад пабычыўшы небяспечнасьць з боку остзэйскіх баронаў, пачаў сціскаць немцаў, заводзіць абрусеньне, то ён скрозь пальцы глядзеў на тое, што інтэлігэнтныя латышы працуюць над адраджэньнем латышскай мовы. Урад бачыў, што калі латышом не рабіць перашкоды, яны куды жвавей будуць змагацца з немцамі. І, запраўды, прайшло ня так ужо шмат часу, як у нас позаводзіліся латышскія школы, пачалі выходзіць свае газэты і кніжкі. Неўзабаве і мейськія людзі пакінулі нямецкую мову і пачалі гаварыць сваёй роднаю латышскаю моваю. Сяляне дзівіліся, што мейськія паны пачалі гаварыць

памужыцку; ім спачатку здавалася, што паны кпіны строяць, сьмяюцца з іх, але хутка пракаваліся, што гэта ня сьмешкі, і з таго часу пачалі шанаваць сваю родную мову. Потым урад расейскі стаў ціснуць і латышоў, але было позна: ніпіто ўжо ня магло спыніць латышскага нацыянальнага адраджэньня.

Канец будзе ў № 3 (7).

# БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

## „БЕЛЫ ВАРТАЎНІК".

Сёлета споўняецца 600 гадоў, як пабудован адзін з найбагатшых нашых гарадоў,—пагранічны з Польшчай стары, стары Беласток. Час з'аснаваньня гэтага гораду адносіцца да 1320 году і прыпісываецца князю Гэдыміну, ў часы якога Беласток быў маленечкай вёскай над прытокам рэчкі Супрасля-рэчкай Белай. З часам свайго развіцьця Беласток дастаецца беларускаму земскаму чалавеку Весялоўскаму, пасьля якога ужэ пры Яне-Казіміру, каралю літоўска-беларуска-польскім, перэходзіць, як дар, Стэфану Чарнэцкаму-ваеводзі за заслугі ў вайне з шведамі. Ад Чарнэцкага па насьлецтву Беласток бярэ Браніцкі, які дабіваецца ў 1749 гаду у караля Аўгуста III-га для Беластоку гарацкіх правоў. Браніцкія пабудавалі ў Беластоку вялікі мастацкі палац, які па сваёй прыгожасьці ў той час не уступаў знанаму Вэрсалю. У канцы XVIII-ага сталецьця у Беластоку жыла да сьмерці сястра караля Станіслава-Аўгуста Тышкевічовая, якая многа памагла росквіту гэтага места.

Пры трэццім раздзелі Польшчы Беласток адышоў да Прусаў і быў выкуплены з прыватных рук, але па міру ў Тыльзіце ў 1807 гаду назад адышоў ад Прусаў і на гэты раз да Расеі. З 1808 году Беласток становіцца глаўным горадам Беластоцкай Вобласьці, пасьля скасаваньня якой у 1842 гаду робіцца паветовым горадам Городзенскай губэрніі, у якім становішчы застаецца аж да жніўня 19 5 году, з якога часу робіцца пры немцах галоўным горадам Упраўленьня Беласток-Городно. У лютым жэ 1919 году Беласток займаюць легіоны Язэпа Пілсуцкага, у лапах якіх, разам з блізка ўсёй Беларусьсю, Беласток спатыкае яго шэсьцісотлетні юбілей.

Ўсім ведама, якое важнае значэньне мае гэты беларускі цэнтр у экавамічным жыцьцю краю. Сукна, скура, лес, хлеб і шмат іншых багацтв таргоўлі і прамыславаcьці, чугуначны вузел пяці дарог ва ўсе стораны, блізасьць добрых рэкаў, наканец, адзін лік фабрык—болей за 650 пры 10,000 работнікаў гаворыць за тое, чаму мы павінны даражыць Беластокам.

І вось цяпер, гэты скарб беларускага народу, які нібыта „сільнымі сьвету" адбіраецца ў беларусоў (сорам нам за гэтых „сільных") і аддаецца польскім імпэрыялістам, спаткаў такі сумны лёс мучэніка польскай акупацыі.

Гэта прыходзіцца сьведчыць, але ў душы мы маем зусім другія надзеі, што ўсе законы: і нацыянальны, і гістарычны, і экавамічны за тое, што ніякая сіла Беластоку ад беларусоў не адырве, хоць для гэтага, г.-з. для абароны права, прыдзецца выкарыстаць многа жывых сілаў краю.

**М. З.**



**Д-р НАХМАН РАХМІЛЕВІЧ.**

Член Дзяржаўнай Рады і Віцэ-Міністэр Гандлю і Прамысловасьці.

Радзіўся ў 1876 гаду ў Ваўкавыску (ў Городзеншчыне). Вучыўся ў Гэсэне і ў Гэйдэльбэрскім і Кенігсбэрскім Унівэрсытэтах. Доктар філёзофіі. Грамадзкі дзеяч Вільні. У Літоўскім Урадзе ад сьнежня 1918 году.

## ТАК БЫЛО, АЛЕ ТАК НЕ БУДЗЕ!

Вельмі характэрным зьяўляецца дакумэнт-перэпіска Начальніка Брытанскай Вайсковай Місыі ў Коўні палкоўніка В. Рован-Робінзона з польскімі акупацыйнымі ўладамі ў Віленшчыне і Городзеншчыне з

прычыны заходаў Міністэрства Беларускіх Спраў аб аслабаненьні з польскіх турмаў засаджэных туды палякамі беларускіх дзеячоў.

Вось што пішэ памянёны Начальнік Брытанскай Мысыі 31 студзеня 1920 году Брытанскаму Ваеннаму Прэдстаўніцтву ў Вільні:

„Паведамляю Вас, што вось якія беларусы трымаюцца ў турме палякамі, нікаторыя яшче з траveня мінулага году. Міністэр Беларускіх Спраў вельмі клапаціцца даведацца ў чым арэштаваных вінавацяць і, калі ні ў чым, то яны павінны быць выпушчэны на волю. Гэта: члены Дзяржаўнай Рады: а. І. Корчынскі, д-р К. Белецкі, члены Городзенскай Беларускай Управы: В. Боеў, П. Аўдзеевіч. Я дабіўся, што Гадыцкі-Цвірко, які быў арэштаваны тут распараджэньнем беларускіх ўладаў, ужэ аслабонены (за Г.-Ц. клапаталі праз ангельцаў палякі у восень 1919 году. Заметка Рэдакцыі).

У адказ на гэту паперу польскі палітычны агент нехта Любамірскі (з службы ваенных атташэ) 19 лютага 1920 году з Вільні паведамляе:

„У адказ на Вашу ноту ад 14 гэтага месяца маю гонар паведаміць Вас, што арэштаваныя беларусы ёсьць па праўдзі рускія і вінавацяцца ў анты-польскай прапагандзі сярод сялян Городзенскай губэрніі“.

Не гледзячы на такі дзіўны адказ, той жэ Начальнік Брытанскай Місыі ў Коўні йзноў пішэ свайму Прэдстаўніцтву ў Вільні—20 лютага 1920 году так:

„Я вельмі шкадую, што па гэтай справі турбую Вас яшчэ раз; я прымаю пад увагу, што ў гэтых краёх, дзе кожны абараняе свае ўласныя ідеі, можна паставіць запытаньне, чы 9 месяцаў турмы не зьяўляецца здаволіваючай карай, каб аслабаніць арэштаваных“.

Вось у чым рэч! Дзэля таго, што памянёныя беларусы зьяўляюцца некаталікамі, а праваслаўнымі, то такіх беларусаў, якія заўсёды будуць мазоліць палякам бакі, можна назваць „рускімі“ і пасадзіць ў турму, ды яшчэ прыбавіўшы ім агітацыю сярод сялян!.

Не, панічок Любамірскі, гэта стары спосаб барацьбы з намі, так было калісьці, калі вашыя сытыя бацькі разам з расейскімі чыноўнікамі дзелілі беларусоў каталікоў і праваслаўных на палякоў і расейцаў. А ведама, як былі ганебны старыя спробы. Нам ведама, што і ўсім „антаншчыкам“ вы ўстаўляецце такія ж акуляры і пад шумок прылучаецце „земі всходне да кароны“.

Далей Нарвы ваш бот не будзе! Не будзе!...

**Я. Харошча.**

◆◆◆◆◆◆

## ГІНУЦЬ АРХІВЫ!

Не гледзючы на рожныя забароны і срогія расказы, на рынках, па дробных крамах ўсюды ідуць у работу цэлыя архіўныя справы, ў якія, як у нікаму не потрэбныя паперкі, заварачываюць масла, лой, селедцыя і іншныя смачны рэчы.



**„БРАТЫ МІЛАСЭРДЗЯ“.**

Каб обьясніць, што значыць гэта фатаграфія (ў Рэдакцы „Ч“ ёсьць такіх рожных колькі) трох польскіх легіанераў, навэт „братоў міласэрдзя“, прыведу кавалак однага з дакумэнтаў, адносячагася да першых месяцаў акупацыі Вільні і Городна войскамі Рэчы Польскай Паспалітай.

„Пачуцьцё бэзкарнасьці так глыбока засела ў польскіх салдатах, што могія не саромеліся зафіксаваць свае учасьце ў рабунках: так многа солдатаў зьняліса ў фатаграфіях пры століках, на якіх вылажылі пачкі грошы, па паказанню аднаго фатографа, тысяч на 30.“

Між тым кожны хоць трохі культурны чалавек, прыгледзеўшыся можэ заўважыць, чаго варты гэтыя дробна пісаныя, пажоўкшыя паперкі, на якіх не рэдка можна знайсьці цікавыя даты да ста і болей гадоў таму назад, часамі цэлыя гістарычныя, чы па-

літычныя запісі, маючыя важнае значэньне для краю незалежне ад таго, чы гэта астаткі панаваньня палякаў, французаў, расейцаў, чы немцаў.

Думаецца, што пара ужэ зьвярнуць на гэта ўвагу, каб спыніць гібель цэлых пакаў архіўных актаў, кніг, мэтрык, рэвізскіх сказак, купчых, пляпаў, рожных сьлецтваў і т. пад.

Чыя гэта апэка? Хто сьпіць?...

**В. М-ко.**



**Юры Аляксандравіч**
**ПЛІСКО,**
падпаручнік 1-шай пешай беларускай роты, кавалер крыжа „За Бацькаўшчыну“.

Радзіўся у 1893 гаду ў Дзісненшчыне, палажыў сваю галаву ў бітве з маскалямі 28 жніваня 1919 году пад Дзвінскам,—у Паўночнай Літве.

Ваяка быў шчырым беларусам-патрыотам і адданым сацыялістам да сьмерці.

Не забудуць
імя твайго, Юры, беларусы!

## БЕЛАРУСКІЯ ЧАСОПІСІ ЗА ЧАС З 1864 ДА 1920 Г.

Беларускія друкі да рэвалюцыі 1905 г. не мелі магчымасьці выхадзіць свабодна. Не глядзючы на гэта, яшчэ ў 1864 г. выхадзілі нелегальна „Гутарка“ і „Мужыцкая Праўда“, друкаваныя лацінікай. У 1897 г. ў Менску быў заложэн „Гоман“ (лацінікай), а ў 1903 ў Слуцку — гражданкай друкаваная „Свабода“, так сама часопісь нелегальная.

З 1905 г., з якога часу стала вальней нацыянальнасьцям былой Росеі, беларускае друкаванае слова пачало пашырацца. Блізка ускі год адчыняліся новыя і новыя пэрыядычныя выданьня. З 1864 г. да 1920 г. былі заложэны: ў Вільні—13, ў Менску 18, ў Петраградзі—8, ў Маскве—1, ў Слуцку—3, ў Кіеві—3, ў Адэсе—1, ў Горадні—6, ў Коўні—1, ў Бэрліне—1, ў Копэнгазі-1 і ў Рызе-1. Сярод гэтых пэрыадычных выданьняў тры былі дзеля вайсковых, гэта: ў 1917 г. „Беларуская Рада“ і „Беларуская Рада XII арміі“ (на беларукай і расейскай мовах) і ў 1919 гаду „Варта Бацькаўшчыны“ ў Літоўскай Чыннай Арміі.

Да 1917 году цэнтрамі беларускіх пэрыядычных выданьняў былі Вільня—Петраград—Менск; у 1918 г. беларускія часопісі зьявіліся навэт ў Адэсі і ў Кіеві. а ў 1919 гаду, ў яком беларуская справа, ў часе, калі блізка ўся Бацькаўшчына была акупована чужынцамі, прытулілася спачатку ў Горадні, а так сама ў Коўні, то і цэнтрамі беларускага пэрыядычнага выдавецтва часова зрабіліся гэтыя мейсцы.

Ў зьвязку з замежнай працай беларусаў, ў Бэрліне ў 1919 гаду былі заложэны на нямецкай мове бюлетэні „Weissruthenische Pressebüro“ ў 1920 г. і ў Копенгазі на дацкай мові такое ж выданьне.

Усяго за разглядаемы пэрыад выйшла 68 пэрыадычных выданьняў, з іх: лацінікай—15, гражданкай—37, на рускай мові—11, (з і часьць мешана: на беларускай мові літэратурны аддзел і на расейскай—палітычны), на нямецкай—2, на французкай—1, на дацкай—1 і на жыдоўскай—1.

З 1864 да 1905 г. выйшла ўсяго 4 пэрыядычных выданьня, а ўсе рэштыя з 1906 да 1920 г.

Найвялікшы росквіт выдавецтва беларускіх чаоспісей быў ў 1918—1919 гг., з якіх ў першым было заложэна 14, а ў другім 25 часопісей.

**К. БЕЛЫ.**

## СКЛАД ЛІТОЎСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ РАДЫ.

Літоўская Дзяржаўная Рада ў апошні час складаецца з 40 сяброў. Гэтыя сябры па фракцыям дзеляцца такім чынам: хрысьціянскіх дэмакратаў —11; бэзпартыйных 6; паступоўцаў (pažanga)—8; землеробаў—4; хаўруса народнай свабоды—1; беларусаў—7; жыдоў—3. З гэтага ліку ў апошні час 3 сябра знайходзяцца незменна ў Нямеччыне і Англіі, а з фракцыі беларусаў з 7-мі сяброў цяпер маецца тута-ка толькі 2: рэштыя знайходзяцца пад польскай акупацыёй; так сама з 3-х жыдоў—адзін у Вільні. Фактычна на паседжэньнях Дзяржаўнай Рады бываець 31 сябэр.

Па заняцьцям сябры Рады дзеляцца так: духоўных—6; селян—4; работнікаў—2; банкір—1; памешчыкаў—3; народны вучыцель—1; асоб інтэлігэнтных заняцьця (інжэнэраў, дахтароў, юрыстаў і пісьменікаў)—23.

З ліку сяброў Рады ў Урадзе знайходзяцца: п. п. Драўгеліс (Міністэр Ўнутраных Спраў), Вольдэмарас (Міністэр Загранічных Спраў), Чарнэцкі (Міністэр Шляхоў), Нарэйка (Міністэр Справядлівасьці), Язэп Воронко (Міністэр Беларускіх Спраў), Рахмілевіч (Таварыш Міністра Гандлю і Прамысловасьці).

Апошні склад сяброў Літоўскай Дзяржаўнай Рады злажыўся паступова. Першы раз былі выбраны 20 сяброў на Літоўскай Канфэрэнцыі, якая адбылася з 8 да 22 жніўня 1917 году ў Вільні (222 дэлегата), з ліку гэтых 20-ці 3 сябра выйшла з складу Рады, а 1 выбран Прэзыдэнты Літоўскай Дзяржавы.

Ў 1918 гаду у ліпені, лістападзе і сьнежню былі давыбраны яшчэ 19 сяброў, у лік якіх уходзяць і прэдстаўнікі ад нацыянальнасьцяў-беларускай (ад Віленшчыны) і жыдоўскай. З гэтых 19 сяброў 3 так сама выйшлі з складу Рады, з іх двое беларусоў —І. Луцкевіч (памёр 20. VIII. 1919 г) і Я. Станкевіч.

Нарэшце на 2-гой Літоўскай Канфэрэнцыі, якая, адбылася 16—25 студзеня 1919 г. ў Коўні (187 делегатаў) былі выбраны 8 сяброў, з якіх тры прэдстаўніка беларусаў ад Горадзеншчыны. Ўсяго было абрано ў бягучы час 47 сяброў.

Старшынёй Дзяржаўнай Тарыбы зьяўляецца Станіслаў Шылінгас, юрыст, эканаміст і пісьменнік, з фракцыі бэзпартыйных.

**Ў. Г.**

## ЧАСОВАЕ ПАСТАНАЎЛЕНЬНЕ АБ ГРАМАДЗЯНСТВЕ ЛІТОЎСКІМ.

(Прынятае Габінэтам Міністраў 9 студзеня 1919 году).

§ 1. Грамадзянамі Літвы лічуцца: 1) асобы, бацькі і дзяды якіх жылі ў Літве; 2) дзеці асоб, упамянёных у § 1, калі яны хоць і не стала жылі ў Літве, але зьвярнуліся назад на жыхарства; 3) асобы, якія жылі ў Літве да 1914 году ня меньш, чым 10 гадоў і мелі чы нерухомую маетнасьць , чы сталае заняцьце; 4) дзеці грамадзян Літвы; 5) жонка, чы ўдава літоўскага грамадзяніна; 6) ўнебрачныя дзеці літоўскай грамадзянкі, калі яны чужаземцам ня ўсыноўлёны; 7) і чужаземцы, прыняўшыя літоўскае грамадзянства.

Увага: Грамадзянамі Літвы ня лічуцца тыя асобы, якіх хоць і мелі сталае заняцьце ў Літве, але іх працай была выняткова службай РасейскамуУраду, г. з. калі яны працавалі, як чыноўнікі.

§ 2. Чужаземец можэ быць прыняты ў лік грамадзян Літвы: 1) калі ён тут пражыў поўных пяць апошніх гадоў; 2) калі мае сталую працу і гэтай працай садзержыць сябе і сваю сямью і 3) калі судом ня быў асуджэн у турму, чы на больш цяжкія кары.

§ 3. Чужаземец, захацеўшы быць грамадзянінам Літвы, калі ён, стасоўна да § 2, пражыў ў Літве 5 гадоў, абавязан падаць прозьбу Міністру Ўнутрэных Спраў, які, па згаджэньні з Міністрам Справядлівасьці, чы здавальняе, прасіцеля чы адказывае.

§ 4. Чужаземцам часова забараняецца купляць, чы якім іншым чынам набываць нерухомую маетнасьць. Справы, адваротныя гэтаму пастанаўленьню, лічуцца незаконнымі. Пракурору Акружнога Суду ставіцца ў абавязак прыняць срэцтвы да зьнішта-жэньня судовым парадкам памянёныя справы.



**Паромы ў Беларусі**

Перэправа жыхароў на паромі праз Дзьвіну ў Паўночнай Беларусі на весну.

§ 5. Землі каланістаў, пасялёных на іх дзяржаўнымі, расейскім селянскім, чы шляхоцкім банкамі, адбіраюцца ад каланістаў, а ім (каланістам) зварочваюцца грошы, якія яны заплацілі за замлю.

# КРОНІКА.

Тэлеграма Прэзыдэнту Гаспадарства. Копія Старшыне—Міністру Гальваноўскаму. (24. XII. 1919).

Сягоньня я атрымаў ад Камандзера Беларускага Батальёну Маёра Ружанцова ліст таго зьместу.

„Прымеце шчырае віншаваньне з святам Ражэства Хрыстова і наступаючым Новым Годам ад беларусоў-афіцэраў і салдатаў і перэдайце Пану Прэзыдэнту Гаспадарства нашэ віншаваньне и запэўненьне, што працуючы поруч з пачэснымі літоўскімі поўкамі, пакінуўшы за Літву рад магіл у Літве і Латвіі, мы спадзяёмся у Новым Гаду вызваліць Бацькаўшчыну ад ўсіх ворагоў і даць можнасьць насяленьню зьвярнуцца да мірнай працы.

Ніхай жыве незалежная Літва! Ніхай жыве наш Урад, ніхай жыве наша войска“!

Аб гэтым я маю гонар давясьці да Вашага ведама.

Член Дзяржаўнай Рады і Міністэр Беларускіх Спраў

ЯЗЭП ВАРОНКО.

### Угодкі беларускага войска у Літве.

27 лютага N-ы Беларускі Батальён сьвяткаваў першыя угодкі свайго існаваньня. На гэтым сьвяці на фронці ад Галоў-

нага Командаваньня быў гэнерал Гальвініс-Быкоўскі, ад Міністэрства Беларускіх Спраў П. Чэркас. Батальён паслаў адпаведныя тэлеграмы Прэзыдэнту Гаспадарства і Міністру Беларускіх Спраў.

### Тэлеграма Міністра Беларускіх Спраў Командуючаму N-ым Беларускім Батальёнам.

(Каўна. 24. II. 1920. № 103).

Шчыра вітаю грамаду афіцэраў Беларускага Батальёну і сваякоў—салдатаў з першымі угодкамі істнаваньня беларускага войска ў Літве.

У гэты дзень перэнашуся да тых момэнтаў беларускага руху, калі два гады таму назад у Менску 20 лютага арганізавалася першая за ўсю апошнюю эпоху беларуская самастойная вайсковая частка.

Ужэ тады беларускае грамадзянства наочна бачыла уваскросіны сваёй мінуўшчыны, першыя прыметы свайго палітычнага адраджэньня.

Цяпера-ка N-ы Беларускі Батальён у Літоўскай Арміі ужэ ставіць гэтыя дасягненьня на тую высокасьць, якая ўвазносіць нашу нацыянальную справу, як роўную роўным.

Беларус уваскрос! Праз цяжкія мукі і цярпеньня ён убачыў праўдзівае адраджэньне!

Дык ніхай жэ нашыя беларускія ваякі, поўныя пашаны да сваёй роднай справы і да сваіх хаўрусьнікаў, як першыя правадыры беларускіх ідэй у жыцьцё, стануць моцным і верным фундамэнтам нашай дзяржаўнасьці.

Ніхай жыве наш Батальён, як адналітая дружына верных сыноў беларускага народу!

Ніхай жыве наш адвечны беларускі хаурусьнік — Літоўскі Віцязь!

Ніхай жыве Літва!

Член Дзержаўнай Рады і Міністэр Беларускіх Спраў
(подпіс).

### „Пад белым арлом“.

Не глядзючы на запрос прэдстаўнікаў Антанты, палякі адмовіліся выпусьціць з турмаў, арештаваных імі яшчэ дзесяць месяцаў таму назад беларускіх дзеячоў у акупацыі, як членаў Дзяржаўнай Рады а. І. Корчынскага, д-ра К. Белецкага, а так сама офіцыяльных прэдстаўнікаў п. п. В. Боева, П. Аўдзеевіча і іншых.

### За Установучы Сойм.

Міністэрствам Беларускіх Спраў зроблены заходы каб беларусы у сучаснай Літве (асабліва ў Новаалександраўскім павеце, у Расіенах, Вількаміры і інш. местах) ніякім чынам не ухіляліся ад актыўнага учасьцьця ў выборах у Установучы Сойм. Асобных „беларускіх“ спіскаў пры выборах у Установучы Сойм не будзе.

### Смэта Міністэрства Беларускіх Спраў.

У Габінэт Міністраў падана Міністрам Беларускіх Спраў смэта на ўвесь 1920 год лічучы толькі Канцэлярыю і установы у неакупаванай Літве,—на суму 319.200 зал. Апроч таго, Міністру Прасьветы падана запіска аб асыгнаваньні 91.000 залатых на выданьне школьных падручнікаў (не лічучы аўтарскіх). Прыймаючы пад увагу сучасная палаженьне ў Гаспадарстві, абодва гэтыя праекты зьяуляцца трэцьцяй часьцьцю патрэбы, асабліва апошні.

### „Варта Бацькаўшчыны“.

У нашых беларускіх вайсковых частках на паўночным фронці нацыянальная сьвядомасьць дасягнула такой высокасьці, што N-ы беларускі Батальён пачаў выдаваць сваю ўласную часопісь „Варта Бацькаўшчыны“. Такое зьявішчэ не можэ не уцешыць сэрца кожнага беларуса. Часопісь выдаецца вельмі старанна і добра распаўсюжываецца. Асабліва зьвяртае на сьбе ўвагу дэвіз аднаго з апошніх нумэраў, —гэта: „Ты літвін — я беларус ніхай жыве наш хаўрус!“.

### Яшчэ адна беларуская часопісь.

Як нас паведамляюць, у Слуцку пачала выходзіць пэрыадычная беларуская часопісь „Наша Калеіна“ у выдавецтве культурна-прасьветнага таварыства „Папараць-Кветка“. На жаль наша Рэдакцыя ні воднага нумэру новай часопісі дастаць не змагла.

### Праезд.

10—15 студзеня праз Коўну праеджаў з Латвіі у Вільню Прэдстаўнік Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі К. С. Душэўскі, зрабіўшы візыт Міністру Беларускіх Спраў. З Прэдстаўніком праехаў так сама дэлегат Беларускай Рады ў Латвіі п. Кадоўба.

### Аслабаненьне.

Беларускі дзеяч—прэдстаўнік беларускіх эс-эраў Я. Чэрэпук, выпадкова затрыманы у Літве, 15 студзеня аслабонены і выехаў у Рыгу, куды ён і меў мету дастацца.

### А. І. Гучкоў у Коўні.

13—16 лютага да Коўны прыезджаў вядомы расейскі палітык былы Прэзыдэнт Дзяржаўнай Думы и Ваенны Міністэр Часовага Расейскага Ураду А. І. Гучкоў (якому 3 сакавіка 1917 году Міколай II-гі падаў на рукі у Пскові свае зрачэньне трону). У Коўні п. Гучкоў адведаў Прэзыдэнта Літвы, колькіх Міністраў і Міністра Беларускіх Спраў. З п. Гучковым за сэкрэтара прыезджаў вядомы у нас палкаўнік О. К. Бенья-Шэвіч.

### Пажывіліса.

Страты, якія панесены Літоўскім Урадам пры разаружэньні палякамі 1-шага Горадзенкага Беларускага поўка перавышаюць 1.500.000 нямецкіх марак (болей 4.000.000 польскіх). У звароці гэтай сумы ад палякоў вялікае учасьцьце прыняла Ангельская Місыя у Коўні.

### „Бахановіч“.

У Празе (ў Чэхаславакіі) зьявіўся вядомы палітычны авантурыст „інжэнэр А. Бахановіч“, якія стаў выдаваць сябе за Прэм'ера Часовага Краевага Ураду Беларусі (з прэтэнзыямі на Городно, Беласток, Вільню), абліваць грязёй літоўска-беларускіх дзеячоў, Літоўскі Урад і інш. Адпаведныя беларускія кругі за граніцай апублікавалі пратэст проці таго, каб ні адзін з прэдстаунікаў Антанты не давераў гэтаму самазванаму „беларускаму прэзыдэнту“.

### Беларусы ў Савецкай Маскоўшчыне.

Як нас паведамляюць, невялічкая кучка беларускіх камуністаў ўсё яшчэ знайходзіцца на бальшэвіцкім пайку ў Смаленску, гэта паны Чэрвякоў, Жылуновіч, Лагун, Шантыр і Скарынка. У чым актыўна выражаецца іх праца на карысьць Бацькаўшчыне (!?) — не чутно.

### Папраўкі.

Ў № 1 „Часопісі“ за 1919 год пад партрэтам памёршага І. І. Луцкевіча напісана дата яго сьмерці 17 жнівеня. Як нам ўдалося цяпер праўдзіва устанавіць, гэта сумная дата ёсьць — 20 жнівеня.

Праз недагляд карэктара у стацьці „Беларускі Рух“ (№ 3—4 і 5 „Часопісі“) аказалася некалькі друкарскіх памылак. Гэтым мы папераджаем, што ў выйшоўшай ужэ брашуры пад той жэ назвай гэтыя памылкі папраўлены.

### Калі выходзіць „Часопісь“.

„Часопісь“ упарод будзе выхадзіць, што месяца, даючы матэрыял за ўвесь той месяц, які абвешчан на вокладцы.

(Глядзі канец на 3-цяй стар. вокладкі).

## Да сьмерці Л. М. Калугіна.

Міністэр Жыдоўскіх Спраў 15 сьнежня 1919 году прыслаў Міністру Беларускіх Спраў ліст такога зьместу: „Пану Міністру Беларускіх Спраў. З поваду панесенай Вамі і ўсім беларускім грамадзянствам цяжкай страты ў асобі памёршага Райцы Міністэрства Беларускіх Спраў Леаніда Калугіна, страты тым барджэй цяжкай, што панесена яна цесным гуртком беларускіх дзеячоў, змушэных працаваць бэззменна, пакуль адрэзаная Беларусь стогне пад ігам польскай акупацыі. Я прашу Вас і бліжэйшых супрацоўнікаў прыняць выражэньне майго шчырага спачуцьця.

Міністэр Жыдоўскіх Спраў

М. Салавейчык.

## Пачтовая скрынка.

(Глядзі №№ 1, 2, 3—4 і 5).

26. **Сябру Ігнатоўскому.** Прышлеце хоць 1 экз. Вашай „Гісторыі Беларусі“.

27. **Я. Фарботку.** Вельмі дзякуем за хлапоты і увагу. Мы лічымо што ніхто нікуды нічога не вывез, усё ў сваіх.

28. **Я. Лучэвічу.** Ні маглі бы Вы, як небудзь—перэслаць „Таварыству імя Ф. Скарыны“ сваю найноўшую фатаграфію.

29. **М. Вершыніну.** Дзякуем за газэты. Прышлеце, калі ласка, „Рускае Дзела“ за студзень 1920 году.

30. **П. Мінюку.** Ўсю літэратуру аб партыі беларускіх сацыялістаў-фэдэралістаў можна набыць толькі Рызе ў Беларускай Радзе Латвіі.

31. **Сакольскаму свояку.** З паміж беларускіх палітычных партыяў найбольшую вагу ў грамадзянстві маюць нацыянальна-сацыялістычныя партыі дэмакратычныя партыі—зусім невялічкія, а буржуазных німа, як ніколі і ні было.

**ВЫДАВЕЦТВА і РЭДАКЦЫЯ: Стол Друку Міністэрства Беларускіх Спраў. КОЎНА. Вуліца Адама Міцкевіча, 13 а.**

### Абвестка.




**Коўна. Вількамірская шаса, 41 б.**

Загад „Таварыства імя Ф. Скарыны“ вельмі просіць ўсіх нашых землякоў і прыяцелёў дастаўляць нам, калі ў каго акажуцца непатрэбнымі, якія беларускія газэты з Вільні, Менску, Смаленску, чы Рыгі, чы іншыя выданьня на беларускай мове, чы на другіх мовах аб беларусах; а так сама сучасныя расейскія газэты, якія пішуць аб нашай справі, чы старыя і старасьвецкія кнігі (апошнія Загад можэ купіць за грошы, чы абменяць на свае выданьня).

**Загад.**

### НОВЫЯ ВЫДАНЬНЯ:

1. „ДЫЯМЭНТЫ БЕЛАРУСКАГА ПРЫГОЖАГА ПІСЬМЕНСТВА“. № 1. Выданьне Беларускага Выдавецтва „Зорка“. Кіеў. 1919. Кошт 5 руб. 50 кап.
2. ЯЗЭП ВАРОНКО. БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА ДА МІРАВОЙ НАРАДЫ Ў ВЭРСАЛІ. Гістарычна-палітычны нарыс. Коўна. 1919. Кошт 2 рублі. (*)
3. К. ЕЗАВІТАЎ. БЕЛАРУСЫ І ПАЛЯКІ. Дакумэнты і факты з гісторыі акупацыі Беларусі палякамі ў 1918 і 1919 г.г. Коўна. 1919. Кошт 10 марак. (*)
4. Л. ГАРЭЦКАЯ. „РОДНЫ КРАЙ“. Першая пасьля лемантара кніжка да чытаньня. Выданьне Таварыства „Крыніца“. Вільня. 1919. Кошт 4 рублі.
5. МАКСІМ ГАРЭЦКІ. НЕВЯЛІЧКІ БЕЛАРУСКА-МАСКОЎСКІ СЛОЎНІК. Выданьне Таварыства „Крыніца“. Вільня. 1919. Кошт 7 марак.
6. М. ЗАСЕЦКІ. МІНІСТЭРСТВА БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ за 10 месяцаў істнаваньня. (І.ХІІ. 1918.—І.Х 1919.) Кароткі нарыс. Коўна. 1919. Кошт 1 залаты. (*)
7. „НАША ХАТА“. Беларускі Календар на 1920 год Год І-шы. Вільня. 1920. Кошт 4 рублі.
8. Я. ВАРОНКО. БЕЛАРУСКІ РУХ ад 1917 да 1920 году. Кароткі агляд. Коўна. 1920. Кошт 2 залатых. (*)
9. БЕЛАРУСКІ ШТАНДАР. Новая пачтовая пісулька ў фарбах. Коўна. 1919. Кошт 40 грошы. (*)

---

Ўсе выданьня, адзначэныя (*), выданы **„Таварыствам імя Ф. Скарыны“**, і набыць іх можна ў — ў Рэдакцыі „ЧАСОПІСЬ“ — Коўна: Вуліца Адама Міцкевіча, 13 а; рэштыя выданьня можна набыць ў Вільні: Вострабрамская вул., 9, і Завальная вул. 7, у беларускіх кнігарнях, чы ў Городні: Саборная вул., кнігарня Іберскага.

## Друкуюцца новыя кнігі:

1. Беларускія Песьні. 2. Заходняя Беларусь. 3. Вялікодная пісанка. 4. Календар імя Ф. Скарыны на 1920 год. 5. Каманда ў беларускім войску. 6. Статут аб выбарах у Літоўскі Устаноўчы Сойм.

Друкарня А. Бака і Х. Манкес. Коўна.